© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 15 (633) ГОД XIII 14 КРАСАВІКА 1968 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ

### 10-АЯ ГАДАВІНА І ПЛАНЫ

30-га чэрвеня споўніцца 10 год з таго дня, калі быў паклікаңы да жыцця гарадскі аддзел беларускага таварыства ў Беластоку. 28 сакавіка на пасяджэнні Прэзідыума праўлення аддзела было пастаноўлена, між іншым: арганізаваць урачыстую акадэмію, падрыхтаваць мастацкую частку, фотавыстаўку з жыцця аддзела, прыгожыя дыпломы найбольш актыўным членам, узнагароды.

Другім пунктам пасяджэння быў аналіз праекта бюджэту для аддзела, з якім звязаны магчымасці арганізацыі мерапрыемстваў.

Многа таксама гаварылася аб разбудове БГКТ у Беластоку і аб пашырэнні чытачоў «Нівы». Пастаноўлена ўтварыць у аддзеле пункт продажу нашага тыднёвіка.

На пасяджэнні выказвалася задавальненне, што за гэты год ужо больш як 400 асоб заплаціла на членскія складчыны.

Праўленне аддзела ў гэтым годзе будзе намагацца, каб як найбольш зацікавіць сваіх членаў аматарскім рухам гурткоў і аддзелаў БГКТ. З гэтай мэтай у гэтым годзе плануецца арганізаваць выступленне Гайнаўскай эстрады, харавых калектываў з Бельска і Гарадка, а таксама лепшых вясковых драмгурткоў.

### ДА ЧЛЕНАЎ БГКТ У БЕЛАСТОКУ

Прэзідыум гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку звяртаецца з просьбай да членаў Беларускага таварыства, каб паінфармавалі аддзел аб сваіх новых адрасах. У выніку разбудовы горада многія атрымалі новыя памяшканні, і таму шмат паведамленняў аб мерапрыемствах і пачынаннях аддзела вяртаюцца назад у аддзел. Прэзідыум праўлення звяртаецца таксама з просьбай да сваіх членаў аб аплочванні складчын.

### ПАЭТ ВІКТАР ШВЕД НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Апошняя пабыўка Віктара Шведа на Беласточчыне была вельмі плённай. Ад 25 па 29 сакавіка правёў ён аж 9 аўтарскіх сустрэч, на якіх было раскуплена больш 200 экземпляраў яго зборніка «Жыццёвыя сцежкі». І так, 25.III. чытаў ён свае вершы для жыхароў вёскі Вілінава ў Сямяціцкім павеце, а назаўтра ў школах: у Вілінаве, Клюковічах і Сямяцічах. Вечарам спаткаўся ён з грамадскасцю Мілейчыц.

28 сакавіка Віктар Швед наведаў школу ў вёсцы Тапаляны ў Беластоцкім павеце. Нятледзячы на тое, што ў гэтай школе не вывучаецца беларуская мова, зацікаўленне творчасцю паэта было вялікае. Сведчыць аб гэтым пакупка многімі жыхарамі яго зборнікаў вышэй успомненых вершаў.

29 сакавіка адбыліся аўтарскія сустрэчы паэта ў беларускім ліцэі ў Бельску і ў пачатковай школе ў Аўгустове. Вечарам Віктара Шведа чакалі жыхары вёскі Маліннікі. Вялікая школьная зала была перапоўнена дарослымі і школьнікамі. Паэт быў вельмі цёпла прыняты.

Пасля аўтарскай сустрэчы члены гуртка БГКТ выступілі з п'есай «Пярэстая Красуля».

31 сакавіка ў гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку Віктар Швед зрабіў даклад аб жанчынах-літаратарах у беларускай літаратуры. Расказаў ён аб Элаізе Пашкевіч (Цётка), Канстанцыі Буйла, Ядвізе Бяганскай, Ларысе Геніюш, Ганне Новік, Ніне Тарас, Эдзі Агняцвет, Ганне Краснапёрцы, Алене Вастлевіч, Лідзіі Арабей, Еўдакіі Лось, Данусе Бічэль-Загнетавай, Веры Вярбе, Раісе Баравіковай і іншых. (мх)



Аліна Свенцінская: «...а міма таго люблю настаўніцкую прафесію і хачу ёй самаахвяравацца».

## ЦАНА НАСТАЎНІЦКАГА ДЫПЛОМА

У павеце іх дзесяткі, ваяводстве — сотні, краіне — тысячы. Дзесяткі, сотні, тысячы настаўнікаў, якія працуюць у розных школах і асяроддзях, павышаюць завочна свае кваліфікацыі. Міма агульнадзяржаўнай палёгкі ў форме водпуску і звароту коштаў падарожжа, здабываюць яны дыпломы вышэйшых навучальных устаноў коштам свайго здароўя і асабістых, нармальных прыемнасцей.

**Аліна Свенцінская** з'яўляецца студэнткай II курса геаграфіі **ВСП у Кракаве,** а працуе настаўніцай у чатырохкласнай школе ў **Вольцы Тэрэхоўскай Гайнаўскага павета.** Пані Аліна — гэта малады настаўнік, усяго тры гады таму, як закончыла педліцэй у Ломжы. Працуе ў малой вёсачцы, дзе цяжка нават марыць аб забавах. Зрэшты, пасля першага года працы ў Чаромусе выбрала гэтую школу сама, бо, як гаворыць:

— Маю намер пайсці на стацыянарныя студыі, пасля ўдачнага заканчэння другога курса, а дзеля гэтага трэба матэрыяльна падрыхтавацца. Паколькі бацькі мае бедныя, я сама мушу зарабіць на далейшую навуку.

Вядзем размову аб справах здабывання дыплома. Пані Аліна пачаткова стараецца скромнічаць, гаворыць, што толькі трэба працаваць, а і цяжкасці згінуць. Але потым выяўляе нешта іншае.

— Вучыцца завочна цяжка, амаль кожны месяц ёсць экзамен, да якога трэба моцна рыхтавацца. На працягу года трэба напісаць па чатыры кантрольныя работы з кожнага прадмета. І калі дадаць, што для напісання такой працы трэба шмат літаратуры, якой няма ў нашых бібліятэках, а таксама нахадзіцца па розных установах, каб, напрыклад, апісаць геаграфічна-фізічныя ўмовы мясцовасці, у якой пражываю, дык вобраз цяжкасці будзе яснейшы. А міма таго, люблю настаўніцкую прафесію і хачу ёй самаахвяравацца.

Трэба дадаць, што пані Аліна штодзённа вучыць дзяцей да гадзіны $14^{30}$, што яна не можа мець, з погляду на навуку, ніякай абніжкі гадзін працы бо яна адна. Але Аліна — гэта адначасова малады чалавек, які павінен мець свае правы належныя ў гэтым узросце.

— Здаю сабе справу, — гаворыць пані Аліна, — што марную свае маладыя гады, але калі знаходжуся на танцах, здаецца мне, што марную час на такія прыемнасці.

Хочацца ясней сказаць аб тым, што нярэдка здабываецца дыпломы коштам уласнага здароўя.

— У Кракаў мне 540 кіламетраў у адзін бок. З Чаромухі выязджаю ў $17^{30}$, а ў Кракаве буду ў $4^{27}$ раніцы. Паколькі ў начлегі нас не абяспечваюць, да $7^{30}$ сяджу на станцыі ПКП, а затым адпраўляюся на экзамен. У гэты ж дзень у $16^{50}$ выязджаю з Кракава і на другі дзень проста з поезда паспяваю на заняткі ў сваю школу.

Ніхто не адчувае іх перамучанасці. Здаецца, што трэба толькі здзіўляцца калі чалавек перамучаны 12-цігадзіннай яздой ноччу яшчэ ў сілах здаваць экзамены. А з працы трэба таксама вылічыцца.

— Не раз здаецца, — працягвае пані Аліна, — калі знаходжуся на канферэнцыі, што мяне выткнуць, што я мала раблю для асяроддзя. Але калі рабіць?

(Працяг на стар. 4)



Нашым чытачам і сімпатыкам шлем сардэчныя Святочныя пажаданні. «НІВА»




Данута Бічэль-Загнетава

* ✲ *

— І адкуль з такімі вачамі?
— Я тутэйшая...
Я звычайная.
Мяне маці тут нарадзіла.
Як сасонку ў бары пасадзіла.
Я зжылася з усімі нягодамі.
Мне казалі, што я не гордая.
Таму я не гаманлівая,
Што ўзрасціла зямля неўрадлівая,
Перакроеная, пясчаная...
Я ж тутэйшая. Я звычайная.
Я са сцежкі ў гушчэчы збілася.
Сінім ценем на травы пала
І крыніцай на золку стала.
Засмяялася, звонкая, лёгкая...
І пабегла ў стэпы далёкія.
Там пілі мяне, светлую, сінюю.
Там рукамі, што пахлі бензінам,
Разлівалі мяне, таючую.
На пяскі ды на травы калючыя.
Як ні білася я, гарэзная, —
Закавала мяне зіма.
Рэкі стэп шырока парэзалі,
Там крынічак-жывічак няма,
Бо няма і такога сасонніка,
Дзе б гуляць у хаванкі з сонейкам.
Мне ж успомнілася даўнейшае —
Я далёкая...
Я тутэйшая.

(Са зборніка «Запалянкі»)

## У нацыянальнай камісіі ВК ПАРП

29 сакавіка г.г. адбылося чарговае пасяджэнне Нацыянальнай камісіі Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку. Прысвечана яно было абмеркаванню нагляду Ведамства ўнутраных спраў Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку і аддзелаў унутраных спраў прэзідыумаў павятовых рад над статутовай дзейнасцю нацыянальных таварыстваў.

У гэтай справе зрабіў інфармацыю загадчык Аддзела грамадскіх спраў Ведамства ўнутраных спраў ПВРН у Беластоку Мікалай Куц. Прывядзем найбольш істотныя, на нашу думку, моманты інфармацыі.

Мерай зацікаўлення ўлад дзяржаўнай адміністрацыі нацыянальнымі праблемамі была Пастанова Н-р 62(503)66 Прэзідыума ВРН адносна вызначэння напрамкаў дзейнасці зацікаўленых органаў дзяржаўнай адміністрацыі ў дапамозе насельніцтву нацыянальных меншасцей ад дня 29.XII. 1966 г. Гэта пастанова абавязала зацікаўленыя аддзелы ПВРН, а таксама прэзідыумы павятовых рад рэалізаваць шэраг доўгатэрміновых і бягучых задач.

Паводле ацэнкі Міністэрства ўнутраных спраў, дакумент гэты з'яўляецца пацвярджэннем практычнай рэалізацыі органамі дзяржаўнай адміністрацыі асноў нацыянальнай палітыкі ПАРП.

У выніку гэтай пастановы, прэзідыумы павятовых рад у Гайнаўцы і Сямяцічах выпрацавалі ўласныя праграмы дзейнасці. Іншыя паветы таксама рыхтуюць падобныя планы.

Можна сказаць, што ў 1967 годзе зацікаўленне нацыянальнымі праблемамі з боку прэзідыумаў павятовых рад нарадовых значна ўзрасло. Гэта самае можна аднесці і да аддзелаў ПВРН, асабліва да куратарыі школьнай акругі, аддзела культуры і Ваяводскага камітэта фізічнай культуры і турыстыкі.

Расце таксама грамадска-палітычная актыўнасць нацыянальных асяроддзяў. Адлюстраваннем гэтага з'яўляецца вялікі ўдзел нацыянальных таварыстваў у святкаванні такіх гадавін як 25-годдзе ППР, 50-годдзе Кастрычніцкай рэвалюцыі і — цяпер — 25-годдзе ўтварэння народнага Войска Польскага.

Нацыянальныя таварыствы, якія дзейнічаюць на Беласточчыне, занялі правільнае становішча адносна апошніх здарэнняў на варшаўскім універсітэце. Па ініцыятыве гэтых таварыстваў адбыліся пасяджэнні праўленняў,

(Працяг на стар. 5)

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### ПРЫПЁРТЫ ДА СЦЯНЫ

Рэзігную з выбарчай барацьбы на прэзідэнта, агранічаю бамбардзіроўкі В'етнама — вось сэнс прамовы Джонсана, якая была шокам амерыканскай грамадскасці, увяла ў задумленне цэлы свет. Палітычныя харакіры? прызнаўся да паражэння? зрабіў унік? ці проста звычайны выбарчы манеўр? Джонсан даў аж надта многа прычын, каб словы яго ўспрыймаць з найвялікшаю недаверлівасцю.

Заява Джонсана, што не будзе старацца аб наступны тэрмін паўнамоцтваў у Белым Доме, нават каб яго прасілі на каленях, з'яўляецца вялікім дасягненнем гераічных в'етнамскіх патрыётаў. Другі тыдзень сакавіка быў найгоршым тыднем для амерыканскіх войск ад пачатку вайны. У гэтым жа тыдні, паводле дадзеных Пентагона, лік забітых і раненых салдат ЗША асягнуў рэкордны ўзровень **3275** чалавек. З гэтых крыніц паходзіць таксама звестка, што ў гэтым жа тыдні сакавіка страты патрыятычных сіл былі найменшыя ад паўтара месяца. Адным словам, дробныя, выхудшыя в'етнамцы змусілі яго прэзідэнцкую вялікасць прызнацца да таго, аб чым здаўна ведае цэлы свет: што іх нельга перамагчы. Гэта таксама поспех усіх паступовых амерыканцаў, якія гаварылі Джонсану НЕ!

Але памыляўся б той, хто думае, што Джонсан ужо скончаны. Гэта не мае значэння, што сёння ён не лічыцца кандыдатам. Ніксан запэўняў калісьці, што ніколі і ў ніякім выпадку не стане да ніякіх выбараў — а сёння з'яўляецца асноўным фаварытам рэспубліканаў. Роберт Кенедзі, — месяц-два таму, — таксама гаварыў, што ў ніякім выпадку не будзе кандыдатам у сёлеташніх выбарах, а сёння. Гэта ёсць Амерыка. Заўтра не будзе мець значэння тое, што сёння сказаў Джонсан.

### ЗАБОЙСТВА М. Л. КІНГА

Ужо некалькі разоў белыя расісты ЗША рыхтавалі забойства правадыра негрыцянскага насельніцтва доктара М. Л. Кінга. І вось у мінулым тыдні белы забойца з-за вугла пазбавіў жыцця чалавека, які цешыўся пашанай у цэлых Штатах і на свеце.

Злучаныя Штаты агарнула абурэнне. «Гэтае забойства кончыць фазу пасіўнага супраціўлення, — сказаў адзін з негрыцянскіх правадыроў, — час на актыўную барацьбу».

Калі аддаем нумар да друку ўсё прыходзяць звесткі аб новых дэманстрацыях і сутычках з паліцыяй у ЗША. Аб павазе сітуацыі сведчаць выступленні прэзідэнта і віцэ-прэзідэнта.

Сенатар Макарці, выступаючы ў Лос-Анжэлес, заявіў, што ЗША ўтрымліваюць 20 мільёнаў неграў у стане каланіяльнага падданства, больш лютага, чым каланіялізм еўрапейскі ў Азіі і ў Афрыцы.

А. К.

## БССР

### СПЕЦЫЯЛІСТАЎ

Адбыўся II-гі з'езд спецыялістаў сельскай гаспадаркі Беларусі. З'езд адкрыў першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР **У. Лабанок.**

З дакладам **«Асноўныя прынцыпы сістэмы вядзення сельскай гаспадаркі ў Беларусі і меры па іх ажыццяўленню»** выступіў міністр сельскай гаспадаркі Беларускай ССР, акадэмік Акадэміі навук БССР **С. Скарапанаў.**

У з'ездзе ўдзельнічалі партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі БССР.

### КАМІСІІ

У прэм'ера Беларусі, **Ц. Кісялёва,** адбылося пасяджэнне Рэспубліканскай камісіі па падрыхтоўцы і правядзенню святкавання 50-годдзя Беларускай ССР.

Звернута асаблівую ўвагу на прапагандавы бок урачыстасцей.

### СТАНКІ

У маі адбудзецца ў Парыжы выстаўка савецкіх станкоў, кавальска-прэсавага абсталявання і інструментаў. Права экспанаваць сваю прадукцыю на гэтай выстаўцы атрымала восем станкабудаўнічых і адзін інструментальны завод Беларусі.

### УКАЗ

Беларускія газеты апублікавалі ўказ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР аб узнагароджанні Ганаровай граматай і Граматай Вярхоўнага Савета БССР рабочых, інжынераў і служачых, якія найбольш вызначыліся пры будаўніцтве Гродзенскай баваўнапрадзільнай фабрыкі.

Ганаровымі граматамі, між іншымі, узнагароджаны: шафёр **Сяргей Ванюкевіч,** брыгадзір **Фёдар Гаранскі,** майстар **Станіслаў Грывусевіч,** памочнік майстра **Рыгор Дзмітрук,** галоўны энергетык фабрыкі **Ляонці Мірук,** рабочы **Браніслаў Сідаровіч,** начальнік **Мікалай Ушкевіч,** брыгадзір **Аляксандр Ярашэвіч** і інш.

Граматамі ўзнагароджаны, м. ін.: электраслёсар **Яўгень Багуш,** машыніст аўтакрана **Тадэуш Верабей,** слёсар **Віктар Голуб,** электраманцёр **Міхась Гарбачык,** рабочы **Браніслаў Зубовіч,** старшы інжынер **Галіна Пашкевіч,** муляр **Сцяпан Карповіч** і інш.

### ДЫПЛОМЫ

У выніку Усесаюзнага агляду музеяў СССР вылучана сорак найлепшых музеяў, у іх ліку некалькі беларускіх. Дыплом трэцяй ступені прызнана Гродзенскаму дзяржаўнаму гісторыка-археалагічнаму музею і такі ж дыплом — Пінскаму краязнаўчаму музею.

### ПАЎВЕКАВЫ

Свой паўвекавы юбілей святкуе газета **«Ленінскі прызыў»** у Оршы.

### ЧЭМПІЁН

У Брэсце адбылося першынство рэспублікі па рускіх шашках, у фінале якога прымалі ўдзел шаснаццаць найлепшых.

Званне чэмпіёна Беларусі здабыў майстар спорту **Аркадзь Плакхін.** На другім месцы — **Якаў Кухарчук.** У ліку найлепшых аказаўся настаўнік з Ваўкавыска, **Мікалай Валатковіч.** (С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### ІГНАЦЫ ЛЁГА-САВІНСКІ

3 красавіка адбылося пасяджэнне Выканаўчага камітэта Цэнтральнай рады прафсаюзаў. Першая частка пасяджэння прысвечана была праблемам адпачынку людзей працы. У другой частцы пасяджэння, прысвечанай заданням прафсаюзаў у сучасны момант, з прамовай выступіў старшыня Цэнтральнай рады прафсаюзаў — Ігнацы Лёга-Савінскі.

Прамоўца сцвердзіў, што ў сацыялістычнай сістэме прафсаюзы «знаходзяць у партыі сваю вядучую сілу, знаходзяць падтрымку і дапамогу ў рэалізацыі слушных пастулатаў, якія высоўвае прафсаюзны рух, пастулатаў, якія будуць служыць інтарэсам будовы сацыялізма і інтарэсам рабочага класа». Адначасова, — сцвердзіў далей І. Лёга-Савінскі, — у прафсаюзах партыя заўсёды знаходзіць глыбокую і поўную падтрымку.

«Падобна і ў час апошніх падзей, — заявіў прамоўца, — ад першай хвіліны прафсаюзны актыў і ўвесь прагрэсіўны рух рашуча стаў на бок партыі ў яе барацьбе супроць разбуральнікаў грамадскага парадку і спакою ў нашай краіне».

У далейшай частцы свайго выступлення І. Лёга-Савінскі ахарактарызаваў значэнне масавых прадукцыйных абавязацельстваў у гонар V з'езда партыі. «Масавыя абавязацельствы, — заявіў ён, — асабліва насіленне якіх наступіла ў апошні час, маюць сваю грамадска-палітычную вымову — адказ рабочага класа на злачынскія пачынанні варожых Народнай Польшчы антысацыялістычных элементаў».

Лёга-Савінскі падкрэсліў, што адказнасць павінны панесці ўсе, хто прымаў удзел у інспіраванні і падбунтоўванні моладзі да яе безадказных выступленняў — незалежна ад займаемай пасады ў адміністрацыйным ці арганізацыйным апараце.

### ПЁТР ЯРАШЭВІЧ

6 красавіка ў Кракаве адбылася ўрачыстасць уручэння дыплома доктара ганорыс каўза Горна-металургічнай акадэміі сусветнай славы вучонаму прафесару Баляславу Крупінскаму. Ва ўрачыстасці прыняў удзел намеснік прэм'ера Пётр Ярашэвіч, які выступіў з гэтай нагоды з прамовай. Сканцэнтраваўся ён перш за ўсё на сітуацыі на вышэйшых навуковых установах пасля апошніх студэнцкіх выступленняў. Заахвочваў моладзь да шчырай але спакойнай і разважлівай дыскусіі, у якой моладзь павінна выказваць свае перакананні.

«У нашай краіне, — сказаў Пётр Ярашэвіч, — ёсць многа спраў, над якімі можна і трэба весці дыскусію ў партыі, у прадпрыемствах і сярод моладзі. Дыскусіі нельга аднак весці на нелегальных мітынгах, нельга яе таксама весці за кошт часу прысвечанага на працу, навуку і здабыванне ведаў». (п)

## ВАЯВОДСТВА

### ДАЗ'ЕЗДАЎСКІ ЧЫН

Працоўныя Беласточчыны даз'ездаўскім чынам выяўляюць сваю падтрымку для палітыкі Польскай аб'яднанай рабочай партыі і яе І сакратара, тав. Уладзіслава Гамулкі. Услед за буйнымі прадпрыемствамі да ажыццяўлення прадукцыйнага чыну ў гонар V з'езда партыі прыступілі калектывы меншых прамысловых прадпрыемстваў. Як нас паведамляе Акруговае праўленне прафсаюза рабочых лясніцтва і лесапільнай прамысловасці 62 прадпрыемствы аб'яднаных у гэтым прафсаюзе дадуць краіне дадатковую прадукцыю, вартасць якой перавышае 24 мільёны злотых. Фабрыка фанеры ў Элку датэрмінова выканае экспартную прадукцыю. Мэблевая фабрыка ў Супраслі абавязалася выпусціць звыш плана прадукцыю вартасцю ў 100 тысяч зл. Адначасова іх мэбля мае быць лепшай якасці. Павятовае рамонтна-будаўлянае прадпрыемства ў Сямяцічах на месяц перад устаноўленым тэрмінам закончыць пабудову будынка для сельскагаспадарчых і меліярацыйных патрэб у Мілейчыцах, а на два месяцы раней падрыхтуе такі ж будынак у Сямяцічах. Калектыў рамонтна-будаўлянага прадпрыемства ў Беластоку на два месяцы раней закончыць пабудову будынка для Васількоўскага асьродка адпачынку. Вядома, гэта далёка няпоўны пералік прадпрыемстваў, якія сталі на даз'ездаўскую вахту. Не хапіла б, на жаль, месца каб толькі назваць усе прадпрыемствы, якія прынялі даз'ездаўскія абавязацельствы ў мінулым тыдні.

### СЛОВА ЦЯЖКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ

У Чорнай Беластоцкай 5 красавіка сустрэліся кіраўнікі прадпрыемстваў Аб'яднання цяжкай прамысловасці і сельскагаспадарчых машын. Удзельнікі сустрэчы, якія прыехалі ў Чорную Беластоцкую з усяе краіны, абмеркавалі найважнейшыя справы з гэтай галіны народнай гаспадаркі. Прадпрыемствы цяжкай прамысловасці салідарна асудзілі парушальнікаў парадку ў нашай краіне. У лісце, які ўдзельнікі сустрэчы накіравалі тав. Уладзіславу Гамулку, звяртаюць яны ўвагу на каштоўныя даз'ездаўскія абавязацельствы сваіх прадпрыемстваў.

### ГОЛАС МАЛАДЫХ

500 дзяўчат і хлопцаў, якія працуюць у дзяржаўных вясковых гаспадарках — ПГР-ах — 6 красавіка г.г. прыехала ў Беласток, каб супольна абмеркаваць свае справы. Маладыя вясковыя рабочыя пабывалі ў некалькіх прадпрыемствах Беластока, паглядзелі, як працуюць рабочыя ў горадзе, пабывалі ў Беластоцкім тэатры, а затым занялiся ўласнымі справамі.

### НОВЫ ЧАСОПІС

Беласточчына дачакалася новага пастаяннага культурна-грамадскага часопіса, які называецца «Кантрасты». Гэты часопіс будзе выходзіць рэгулярна кожныя тры месяцы. Можна яго купіць ужо ў кіёсках «Руху».

(вр)




**NIEDZIELA, 14 KWIETNIA**

10.20 Program dnia. 10.25 ,,Podwodne polowanie'' — film przyrodniczy USA. 11.15 PKF. 11.25 Dziennik. 11.35 ,,Wilamowickie wesele'' — widowisko ludowe. 12.05 ,,W starym kinie''. 13.05 Teatr Młodego Widza: H. Januszewska — ,,Klucz''. 14.05 ,,Przemiany''. 14.35 ,,Studio Uno'' — film estradowy włoski. 15.30 ,,Wielka gra'' 16.30 ,,Poczmistrz'' — film TVP wg noweli A. Puszkina. 17.00 ,,Tele-Echo''. 17.50 ,,Nędza uszczęśliwiona'' — opera kantata. 18.40 ,,Piórkiem i węglem''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Niedzielny Teatr TV: A. Schnitzer — ,,Anatol''. 21.20 ,,Cześć kapitanie'' — film TVP. 22.15 Wiadomości sportowe. 22.25 ,,Destry znowu w siodle'' — film fab. USA (western). 23.55 ,,Gilbert Becaud przedstawia'' — filmowy program estradowy cz. I.

**PONIEDZIAŁEK, 15 KWIETNIA**

9.25 Program dnia. 9.30 ,,Przypominamy, radzimy''. 9.40 ,,Czy macie w domu lwa'' — film fab. CSRS. 10.55 ,,Wędrowiec'' — film kanad. 11.25 Dziennik. 11.35 ,,Animalia'' — program rozrywkowy. 12.20 ,,W krainie dziwnych zwierząt'' — film przyrod. radz. 13.35 Krakowski Teatr Baśni: P. Malarewski — ,,Czarodziejska rzepka''. 14.35 ,,Chaplinowska kawalkada'' — film archiwalny USA. 15.50 ,,Ludzie i zdarzenia''. 16.05 ,,Muzyka i poezja''. 16.35 ,,Madonna Quentina Massysa'' (,,Arcydzieła malarstwa w zbiorach polskich''). 16.50 ,,Kino Krótkich Filmów''. 17.15 ,,Na welocypedzie'' film fab. franc. 18.45 ,,Radar'' 18.55 ,,Trzy żywioły'' film TVP. (baletowy). 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV. A. Fredro: ,,Pan Geldhab''. 21.15 ,,Dziewczyny, bądźcie dla nas dobre na wiosnę''. 22.10 Magazyn Sportowy.

**WTOREK, 16 KWIETNIA**

9.00 Teleferie: ,,Towarzystwo Zagadkowe Poranne''. ,,Wielka, większa, największa'' — film fab. pol. 10.50 Przerwa. 12.30 i 16.20 ,,Przysposobienie Rolnicze'' — ,,Jak budować''. 13.05 Przerwa. 16.15 Program dnia. 16.55 Dziennik. 17.00 Teleferie: ,,Towarzystwo Zagadkowe Wieczorne''. ,,Turniej Żółtej Żyrafy'' (I). 17.50 ,,Nie tylko dla pań''. 18.10 ,,Tor przeszkód'' — film TVP. 18.20 TV Kurier Warszaski. 18.35 ,,Po szóstej''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik 20.05 ,,Na tropie blagi''. 20.35 film fab. 22.05 ,,Rozmowa o książkach''. 22.20 Dziennik.

**SRODA, 17 KWIETNIA**

9.00 Teleferie: ,,Pigułki dla Aurelii'' — film fab. polski. 10.25 Przerwa. 11.15 ,,Sześć popiersi Napoleona'' — film (,,Sherlock Holmes''). 12.05 Przerwa. 13.25 Program dla nauczycieli matematyki — Dydaktyczne założenia realizacji programu geometrii w kl. I szkoły średniej. 14.00 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.45 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Teleferie: ,,Turniej Żółtej Żyrafy'' (II). 17.30 PKF. 17.40 ,,Z drugiej strony szklanego ekranu''. 17.55 Magazyn Medyczny. 18.25 ,,Reportaż z książki telefonicznej'' — film dok. TV radz. 18.50 ,,Sylwetki X Muzy'' — Elżbieta Kępińska. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Sześć popiersi Napoleona'' (Sherlock Holmes). 20.55 Światowid'' 21.25 ,,Ręce... ręce...'' — program muzyczno-baletowy. 21.55 ,,Zabić jelenia'' — rep. filmowy. 22.25 Dziennik.

**CZWARTEK, 18 KWIETNIA**

9.55 Dla szkół (kl. VIII) Historia: ,,Droga do Polski Ludowej''. 10.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Język polski — ,,Henryk Sienkiewicz''. 12.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.55 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem''. 18.00 ,,W stolicy Peru'' — film Tele-Aru (,,Z kamerą po świecie''). 18.15 ,,Polska pieśń historyczna''. 18.45 ,,Poligon''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Dobry wieczór, jak minął dzień''. 20.35 ,,Bezimienni bohaterowie'' — film fab. radz. 22.05 ,,Samorząd studencki''. 22.35 Dziennik.

**PIĄTEK, 19 KWIETNIA**

9.35 ,,Bezimienni bohaterowie'' — film fab. radz. 10.55 Dla szkół (kl. VII) Historia: ,,Ludwik Waryński i jego towarzysze''. 11.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Zajęcia techniczne: ,,Szyfrowany zamek elektryczny''. 13.15 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 23.10 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: ,,Miś z okienka''. 17.15 ,,Kino Filmów Amatorskich''. 17.45 ,,Kiedy trzeba podjąć decyzję''. 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 ,,Dialogi historyczne''. 19.00 ,,Śpiewa Wanda Warska''. 19.15 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Warszawskie Ghetto'' — film dok. ang. (BBC). 21.00 ,,10 minut recenzji''. 21.10 Teatr Piątkowy: G. Flaubert — ,,Szkoła uczuć''. 22.20 Program Redakcji Społecznej. 22.50 Dziennik.

**SOBOTA, 20 KWIETNIA**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Geografia: ,,W Japonii''. 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. V) Geografia: ,,Ruch wirowy ziemi''. 11.25 ,,Dwie sroki za ogon'' film fabularny radziecki. 12.35 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 TV Kurs Rolniczy: ,,Racjonalny dobór maszyn dla Kółek Rolniczych''. 16.20 ,,Między lekcjami'' (,,Wychowanie fizyczne naszych dzieci''). 16.30 Program Tygodnia. 16.55 Dziennik. 17.05 Dla młodych widzów: ,,Dla każdego coś miłego'' (z Warszawy i Moskwy). 18.05 ,,Świat, który nie może zginąć''. 18.30 ,,Warszawa, ja i Ty''. 18.55 ,,Gawędy o współczesności''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 ,,Monitor''. 20.10 ,,Almanach''. 20.40 ,,Zabójcy'' — film fab. USA. 22.20 Dziennik. 22.25 Wiadomości Soprtowe. 22.45 ,,Śpiewki stare, ale jare'' (hiszpańskie i meksykańskie).




**PIĄTEK, 12 KWIETNIA**

8.05 Dziennik. 8.15 Dla przedszkolaków. 8.45 ,Kłos''. 9.15 Teatr Literacki. 10.00 Hokej: ,,Dynamo'' (M) — CSKA (M). 13.25 Program dnia. 13.30 Sztuka dla dzieci. 14.10 Język angielski dla przedszkolaków. 14.30 ,,Kto może — niech odda więcej''. 14.50 ,,Nowiny''. 15.00 Program poświęcony Dniu kosmonautyki. 19.00 ,,Sztafeta nowin''. 19.45 ,,Na muzycznej fali''. 19.55 ,,K. Marks — rewolucjonista w nauce''. 20.15 ,,Z historii muzyki''. 20.40 ,,Pięć plus dwa''. 21.15 ,,Tylko fakty''.

**SOBOTA, 13 KWIETNIA**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dla studentów. 9.30 ,,Konkurs taneczny''. 11.00 Język angielski dla przedszkolaków. 11.20 ,,Praca propagandysty''. 11.40 ,,Szkatułka muzyczna''. 12.00 ,,Ponsowe żagle''. Film 13.30 ,,Oni spotykali się z Leninem'' — film dok. 13.50 ,,Uniwersytet Białoruski''. 14.35 TV film dla dzieci. 14.45 ,,Kontrolerzy''. 15.30 Klub Filmowy. 16.30 ,,Poczta ,,Płomyka''. 17.30 Program literacki. 18.30 ,,Czas''. 19.00 ,,Kochać zabronione''. Film. 20.30 ,,Pojedynek za kulisami''. 20.50 ,,Wszyscy moi synowie''. 21. 20 Dziennik. 21.30 Program na jutro. 21.35 Koncert estradowy.

**NIEDZIELA, 14 KWIETNIA**

6.30 Dla studentów. 7.00 Gimnastyka. 7.15 ,,Budzik''. 7.45 Dziennik. 8.00 ,,Na warcie''. 8.30 ,,Album przyrody''. 9.00 Almanach literacki. 10.00 ,,Radar''. 11.00 Dla uczniów. 11.30 Dla dzieci. 11.55 ,,Białe i czarne''. 12.25 Koncert życzeń. 13.00 Hokej. Finał Pucharu ZSRR. 15.30 ,,Kiosk muzyczny''. 16.00 ,,Lekkie życie''. Film. 17.35 ,,Wnukowie Neptuna''. 18.00 ,,O najbardziej ludzkim''. Film dok. 19.10 ,,Siedem dni''. 20.00 Śpiewa Nina Isakowa. 20.30 TV Teatr Miniatur. 21.30 ,,Tylko fakty''.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# Хто добра спявае савецкія песні

Найлепшыя выканаўцы савецкіх песень прыступілі ў палове сакавіка ў Аўгустове да спаборніцтва. Перамагла **Анна Куроўская** — вучаніца Электрычнага тэхнікума ў Беластоку, I-шая ўзнагарода і выезд у СССР.

Дзве другія і дзве трэція ўзнагароды (па адной у катэгорыі моладзі і дарослых) здабылі салісты: **Генрык Владарчык** — капраль Падляшскай часці ВОВ у Беластоку і **Іра Чыжэўская** з Дубровы, **Юзэф Макоўскі** з Аўгустова і **Лена Кавалёнак** з Беластока.

Агулам удзел у ваяводскім аглядзе VII Агульнапольскага конкурсу савецкай песні прыняло 94 асобы, у тым 47 салістаў і 16 малых калектываў: дуэты (7), трыо (4), квартэты (5).

Удзельнікамі былі пераважна жыхары гарадоў. Адна салістка была з вёскі ля Аўгустова і адно трыо з Боцек.

А вось гарады, з якіх з'ехаліся спевакі: Беласток (найбольш), Аўгустуў, Ганёндз, Лапы, Гайнаўка, Бельск, Дуброва, Саколка.

На агульнапольскім спатканні лаўрэатаў у Інаўроцлаве выступіла ад Беласточчыны двух салістаў і адзін дуэт.

(вл)

# ЯШЧЭ АДЗІН

Мінуў беспаваротна той час, калі сельскагаспадарчая служба і партыйныя ўлады нагаварвалі сялян на ўтварэнне сельгасгуртка, на пакупку трактара ці іншых машын да апрацоўкі зямлі. Цяпер у кожным павеце гэтая арганізацыя здабыла папулярнасць. Няма ўжо нават такой грамады, дзе не было б некалькі сельгасгурткоў. «Ральнічыя кулка» арганізуюцца і там, дзе цераспалосіца. Нават там гаспадары пачынаюць уводзіць на свае вузкія палоскі трактары і іншыя сельскагаспадарчыя машыны. Значыць, пераканаліся аб карысцях механізацыі. Нядаўна сельскагаспадарчы гурток арганізаваўся ў Сакалдзе на Сакольшчыне. Аб'ядналася ў ім 20 гаспадароў. На старшыню гуртка выбралі сяляне Язэпа Хомчыка.

Ужо на гэтым арганізацыйным сходзе было пастаноўлена як найхутчэй купіць трактар, жняярку самавязку, 5 сеўнікаў, малацільны агрэгат і апрысківач «Ользу». Механізацыя палявых работ сталася ўсеагульнай, сталася ўсюды пажаданай, **сталася рухавіком развіцця** сельскагаспадарчай вытворчасці. (мх)

# Аднак будзе

Цікавы, хоць драўляны, будынак белавежскага кіно «Зубр» будзе жыць. Пішам так, бо справа гэтага будынка, а што за тым — адзінага будынка для культурнай дзейнасці ў Белавежы (т. з. акрамя кіно, змяшчаецца святліца і бібліятэка) была ўжо вырашана так, што рамонту праводзіць тут няма сэнсу. Зараз аднак за 150 тыс. зл. ідзе рамонт у белавежскім «Зубры» і закончыцца бадай на лета. (вл)

**10 год дзейнічае ў Беластоку і ваяводстве Таварыства свядомага мацярынства. Вакол яго яшчэ многа непаразуменняў, што да мэты яго дзейнасці. Людзі на ўспамін аб свядомым мацярынстве часта ўсміхаюцца. Таму рэдакцыя звярнулася да спецыялістаў па гэтаму пытанню, каб яны вытлумачылі ідэю і мэту свядомага мацярынства.**




ПРАФЕСАР ДОКТАР МЕДЫЦЫНЫ СТЭФАН СОШКА:

— Гэта гуманізацыя сямейнага жыцця. Гэта ўбранне ў формы грамадскай культуры сужыцця двух асоб розных полаў. Гэта вышэйшае, не інстынктыўнае, не звярыннае палавое сужыццё паміж мужчынай і жанчынай. Хачу выказаць думку, ідэю: каб інстынкт і сужыццё паміж дзвюма асобамі, разраджэнне і ўтрыманне гатунку, так выразна зазначанае ў звяроў, каб у чалавека вызначалася гуманнасцю. За гэтым скрываецца многа розных спраў.

Усведамленне — гэта імкненне мець дзіця, але іменна свядомае імкненне, а не толькі як вынік браку святла. Гэта імкненне, каб у сваім патомстве прадоўжыць сваю любоў. Гэта свядомае, культурнае, гуманнае і вышэйшае. Не толькі задавальненне сваіх інстынктаў. Гэта папаўненне свайго нармальнага бытавання элементам, які называецца каханнем. А каханне? — гэта непасрэдны кантакт — значыць датыкаць, размаўляць, танцаваць, абменьвацца апініямі, ведаючы, што погляды нашы не мусяць быць такія самыя. Гэта свядомасць, што сям'я не павінна трымаць сілай рэлігіі, закону, наказаў, якія звырадняюць яе. Гэта ўнутраная патрэба ў сям'і, якая трымаецца на разуменні мэты свядомай сям'і: запэўненне гэтай сям'і і дзецям **утрымання і выхавання.**

ДАЦЭНТ ДОКТАР МЕДЫЦЫНЫ ВАНДА КАЗАНОЎСКАЯ:

— Чаму прапануем ідэю свядомага таварыства? Бо яно займаецца ўсімі клопатамі ў жыцці жанчыны і сям'і. Адным з такіх клопатаў — непажаданая цяжарнасць. Не хочам, каб жанчына не радзіла, але калі радзіць не хоча, няхай жа ведае, што трэба рабіць, каб не наражацца на непатрэбную і шкодную здароўю аперацыю. Вучым жанчыну пазнаваць асноўныя з'явы, якія ў розныя перыяды яе жыцця ўзнікаюць у яе арганізме. Справа таварыства свядомага мацярынства — пазбягаць хвароб, асабліва жаночых і асабліва рака палавых органаў. Кладзем націск, каб і моладзь і старэйшыя ўмелі сябе ўзаемна зразумець і шанаваць.

Справа адказнасці жанчыны і мужчыны — гэта таксама заданне свядомага мацярынства. Няма такой адказнасці асабліва ў мужчын. Але мужчына тады будзе адказны, калі ад дзіцяці будзе адпаведна выхоўвацца ў духу шанавання сям'і, жанчыны, салідарнасці. А ў нас пакуль з гэтым цяжка. Няма так званага сексуальнага выхавання. Традыцыйнае выхаванне робіць з гэтай тэмы рэч сарамлівую і смешную.

Колькі дзяцей радзіць? Гэта справа індывідуальная. Адно важна: бацькі павінны здаваць сабе справу, колькі дзяцей могуць выхаваць і вывучыць. Тут павінна быць у **іх сціслае эканамічнае аблічэнне.**

ДОКТАР МЕДЫЦЫНЫ БЕРТА ШАЙКОЎСКАЯ — СТАРШЫНЯ ВАЯВОДСКАГА АДДЗЕЛА ТАВАРЫСТВА СВЯДОМАГА МАЦЯРЫНСТВА.

— Заданні і ідэя нашага таварыства: стварыць шчаслівую сям'ю, дзе дзіця было б патрэбным і шчаслівым. Абавязкі накладаем і на мужоў. Яны таксама павінны прымаць вельмі актыўны ўдзел і ў выхаванні дзяцей і старацца ўтрымаць сям'ю ў згодзе і ладзе. Наша роля ў забеспячэнні непажаданай цяжарнасці. Змагаемся з раскладам сям'і і з разводамі, бо тут ідзе пра дзіця, якое ў разводзе церпіць найбольш. Для дзіцяці лепшая нават не зусім згодная сям'я, чым развод. У справе сексуальнага выхавання ўсё яшчэ ідуць спрэчкі. Хто гэта павінен рабіць: ці бацькі, ці лекар, ці настаўнік. Мы гаворым: усе. Гэтае выхаванне павінна ісці ў пары з агульным выхаваннем, каб малады хлапец шанаваў сваю сяброўку, бо яна, як будучая маці, вымагае пашаны і апекі. Выхаванне сексуальнае — гэта таксама штодзённая культура жыцця.

У кожнай павятовай парадні «К» у нашым ваяводстве можна атрымаць парады ў розных справах, аб якіх мы тут гаворым.

ДОКТАР МЕДЫЦЫНЫ ІРЭНА БЯЛУЎНА:

— Свядомае мацярынства павінна служыць для дабра дзіцяці. Гэта найбольш ідэальная ідэя свядомай маці і свядомага бацькі. Галоўная мэта — адказнасць за дзіця, каб нарадзілася яно ва ўласцівым часе, тады, калі жанчына можа нарадзіць дзіця здаровым, і калі бацькі могуць яго ўтрымаць і выхоўваць. Здароўю самой жанчыны не карысна, каб яна часта радзіла.

У нас, калі жэняцца, то думаюць аб усім, толькі не аб свядомым мацярынстве. Пануе лёгкадумнасць, калі рэч ідзе пра сям'ю, дзіця. Усведамляць трэба не толькі дзяўчыну, але і хлопца. І то ўжо ў сярэдняй школе. Аб чым трэба ведаць? Напэўна ведаць трэба, што такое сям'я, колькі яна каштуе, якой павінна быць? Свядомае мацярынства — гэта не толькі ўмеласць пазбягаць цяжарнасці, а далей як сабе хочаш. Гэта цэлы комплекс спраў звязаных з чалавекам.

Размовы запісала
**Вера Леўчук**

# Супрасль у мінулым і сёння

Мястэчка распалажанае на левым берагу рэчкі Супрасль. Вядомае яно ў гісторыі са сваіх бясцэнных рукапісаў з XI стагоддзя, якія былі знойдзены прафесарам Віленскага універсітэта М. Бабровскім у Супрасльскім манастыры. «Супрасльскі кодэкс» пісаны кірыліцай на стараславянскай мове з'яўляецца каштоўнейшым дакументам асабліва для моваведаў. Супрасль меў вялікае значэнне і далей. Пачынаючы ад другой чэцверці XIX стагоддзя будуецца тут усё больш фабрык, развіваецца тэкстыльная прамысловасць. Эксплуатаваныя рабочыя бастуюць, дэманструюць, змагаюцца з сацыяльнай і нацыянальнай несправядлівасцю. У 1933 годзе ў час забастоўкі санацыйная паліцыя застрэліла 2-х рабочых.



Сакратар ГРН Яўгенія Радзівanoўская.

У 1944 годзе ў час адступлення немцы знішчылі ўсе фабрыкі і шмат гістарычных аб'ектаў, у тым ліку старынную арыгінальную царкву, якая спалучала элементы стылю візантыйскага і гатыцкага.

Некалькі год таму назад муры царквы ўзнесены на вышыню трох метраў і даюць наведвальнікам пэўныя ўяўленні аб кшталтах былой святыні.

Можна сказаць, што добра захаваліся толькі пазнейшыя паманастырскія будынкі і бараковая ўяздовая брама з 1752 года.

А як выглядае і развіваецца Супрасль зараз? У Супраслі разам са школьнай моладдзю жыве цяпер 4200 чалавек. Ёсць тут дзве сярэднія школы — ліцэй штук пластычных і тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі. Пабудавана нядаўна прыгожая пачатковая школа і асродак аховы здароўя. Пабудаваны тут таксама асродак адпачынку і ўжо пачалася будова курортнага асродка.

Гарадская рада нарадовая перабудоўвае, аднаўляе вуліцы, закладае «яжэнёвае» асвятленне, намагаецца, каб у Супраслі будаваліся прадпрыемствы. Ад нядаўна аддана да эксплуатацыі з навачэсным абсталяваннем сталярска-мэблевая спулдзельня працы, у якой працуе каля 200 чалавек. 140 чалавек працуе ў тартаку, а каля 170 асоб знайшло працу ў прадпрыемстве тэкстыльна-адзежовым. Ёсць тут і іншыя дробныя прадпрыемствы. У Супраслі цяпер адчуваецца недахоп рабочай сілы. Тут добра развізаецца і культурнае жыццё. Радам з кіно ёсць гарадская святліца якой кіруе Чэслава Сівэк. Дзякуючы яе намаганням існуе тут 6-асабовы эстрадны калектыў, які мастацкай часткай забяспечвае ўсе акадэміі і ўсе іншыя мерапрыемствы ў Супраслі. Яго значэнне ўзрастае ў летні перыяд, калі ў Супрасль прыязджае на адпачынак шмат людзей. Тады запатрабаванне на культурныя «разрыўкі» даволі вялікае. Добра тут развіваецца спорт. А хакеісты выязджалі нават на спаборніцтвы да Вільна. Дзякуючы шматлікім узвышанасцям, зімою многа тут любіцеляў лыжнай турыстыкі.

У мінулым годзе паклікана да жыцця таварыства любіцеляў Супраслі на чале з настаўнікам Генрыхам Олдытоўскім. Табарыства плануе стварыць рэгіянальны музей. Гарадская рада нарадова са сваіх надвыжак прызнала ўжо на гэта 50 тыс. зл. А калі гаварыць аб прэзідыуме гарадской рады нарадовай, дык перш за ўсё трэба успомніць сакратара Яўгенію Радзіваноўску, якая працуе на гэтай пасадзе ўжо 16 год. Яна з'яўляецца не толькі «душой» калектыва гэтай установы, але таксама многа пакладае намаганняў, каб Супрасль прыгажэў, каб паспяхова развіваўся.

Супрасль у будучыні гэта буйны турыстычна-курортны цэнтр. Тут будуць пабудаваны над рэчкай два курортныя асродкі, разбудуецца пункт домікаў «кампінговых», перабудуецца існуючы аграмадны будынак на спартыўную галю, па тэхнікуме механізацыі сельскай гаспадаркі адаптуецца будынак на належны дом, а надлясніцтва пабудуе гасцініцу для рабочых. Для жыхараў Беластока Супрасль мае найбольшае значэнне як мясцовасць нядзельнага адпачынку.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскі**



Члены эстраднага калектыва В. Рамановіч, Э. Бок, С. Сівэк і Г. Дабравольскі.



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ЗМАГАННЕ ЗА ЎРАДЖАЙ

Як толькі пачало прыграваць сонца, як пачало добра ўжо пахнуць вясною, на нашых вёсках ажывіўся рух. Пачало рабіцца ўжо мала часу гаспадарам. Бо не ўсе яшчэ дастаткова зімою купілі мінеральныя ўгнаенні. А за імі трэба паехаць у ГС. Трэба і хамут наладзіць, і пастронкі купіць, або скруціць, і лямеш навастрыць, і барану наладзіць, і ворчыка падрыхтаваць, і найважнейшае — узяцца за аранне і сеянне. А сеюць цяпер пераважна сеўнікамі. Рассяваюць імі не толькі насенне. Спецыяльнымі сеўнікамі рассяваюць таксама і мінеральныя ўгнаенні. Вось таму трэба дагаварыцца, хто, калі і што сее і дзе сее, бо разыходзіцца пра тое, каб як найбольш рацыянальна выкарыстаць час. І ці даны селянін з'яўляецца членам сельскагаспадарчага гуртка, ці не, усім амаль аднолькава вясна прынесла клопаты. Бо кожны гаспадар хоча, каб на яго полі ўсё добра расло. Розніца толькі ў тым, што членам сельгасгуртка ў першую чаргу прыслугоўвае апрацоўка зямлі гуртkоўскімі машынамі. А машын цяпер у сельскагаспадарчых гуртках даволі многа. Возьмем для прыкладу вёску Аўгустова, што ў Бельскім павеце, у якой знаходзіцца машынатрактарная міжгуртковая база. Там выйдзе ў поле дванаццаць трактараў. Гурток мае таксама шмат сеўнікаў. Штопраўда сеўнікаў шмат маюць і індывідуальныя гаспадары. Так што сяўба ўручную, з прыполу або каробкі, там ужо амаль не сустракаецца. Людзі пераканаліся ў тым, што сеўнікам высяваецца і менш збожжа, лепш яно рассеяна, лепш узыходзіць і родзіць.

Прэзідыум ГРН у Аўгустове супольна з грамадскім камітэтам ПАРП вялікі націск кладзе ў гэтым годзе на хімічную заправу насення, на абмен сеўнага матэрыялу і на ліквідацыю пустазелля. Аб гэтых справах многа гаворыцца на нарадах солтысаў, на пасяджэннях грамадскага камітэта і сходах партыйных арганізацый, а таксама на пасяджэннях праўленняў сельскагаспадарчых гурткоў.

«Мусім гаспадарыць лепш», — вось такі дэвіз мерапрыемстваў і пачынанняў мясцовых улад і арганізацый. А каб гэтак сталася, неабходна поўнасцю выканаць дзяржаўны план мінімум, які датычыць у асноўным трох пунктаў:

1) Прэзідыум ГРН у Аўгустове купіў для сялян за 4,5 тыс. зл. хімічнай заправы да ўсіх збожжавых культур. Перад сяўбой правяраецца насенне. Разыходзіцца пра тое, каб кожнае ўкінутае ў зямлю зерне ўзышло і добра расло.

2) Вялікую ўвагу звяртаецца на насенне, і таму ў ГС-е ў Бельску кожны гаспадар можа сваё насенне абмяняць на кваліфікаванае насенне. Можна таксама купіць насенне без абмену (калі хто яго не мае). У грамадзе Аўгустова вызначаны нават вёскі на абмен паасобных культур. І так, у гэтым годзе авёс абменьваюць жыхары Малінова, Налогаў і Стрыкоў, а ячмень і яравую пшаніцу — сяляне вёсак Банькі і Вароне.

3) Пастаноўлена, што ў вёсцы Аўгустова будзе праводзіцца прымусовая ліквідацыя пустазелля. Калі які-небудзь гаспадар нічога не будзе рабіць, каб на яго палетках пустазелля не было, тады сельскагаспадарчая служба спецыяльнымі квасамі пры дапамозе апрысківача сама зліквідуе пустазелле на кошт гэтага гаспадара. Справа ў тым, што пустазелле з'яўляецца вялікім няшчасцем для ўраджаю.

З вялікай дапамогаю сялянам Бельшчыны прыходзіць Цэнтраля насенная, якая выдае кваліфікаванае насенне на закантрактаваныя культуры. Вялікая роля ў змаганні за багаты ўраджай аграномаў, якія наглядаюць за пасевамі і даюць гаспадарам многа парад.

У многіх грамадах Бельскага павета, зрэшты не толькі Бельскага, ёсць шмат зямлі дзяржаўнага фонду, якая поўнасцю не абсейваецца. Ёсць таксама нямнога зямельных угоддзяў неабсеяных на апушчаных гаспадарках і там, дзе гаспадарaць старэнькія бацькі. Прэзідыумы павятовых і грамадскіх рад нарадовых робяць вялікія намаганні, каб быў засеяны кожны кусок зямлі, каб не было зусім аблогаў, і таму на выгадных умовах гэтыя аблогі стараюцца перaказаць сельскагаспадарчым гурткам, а таксама індывідуальным гаспадарам. Адным словам, робіцца ўсё, каб уся зямля радзіла збожжа, каб больш было хлеба, каб больш было сельскагаспадарчай вытворчасці і каб большыя былі ўраджаі на кожным гектары зямлі.

**Міхась Сваяк**

# АМАТАРЫ З СУХАВОЛЬЦАЎ

Восенню мінулага года ў Сухавольцах грамадскім чынам (Гайнаўскі павет) быў праведзены рамонт будынка, у якім зроблена святліца. Упершыню жыхары вёскі маюць пастаяннае месца сваіх сустрэч, сходаў і розных нарад. Асабліва выгадна для моладзі. Святліца сталася цэнтрам культурнага жыцця. Там амаль кожную суботу адбываюцца танцавальныя вечарыны, якія пераплятаюцца песнямі мясцовай шматлікай моладзі. У снежні мінулага года моладзь пад кіраўніцтвам Сяргея Масальскага арганізавала мастацкі калектыў. У яго рэпертуар уваходзяць песні, гумар і камедыя Яўгенія Блізнюка і Уладзіміра Цілюлькі «Дзесяць гектараў». Самадзейнікі з Сухавольцаў паспяхова выступілі ў сваёй вёсцы, а потым тры разы выязджалі ў суседнія вёскі. Пяты раз паказалі яны свае тэатральныя здольнасці на павятовым аглядзе драмгурткоў у Гайнаўцы і закваліфікаваліся на ваяводскі агляд драмгурткоў, які арганізуе Галоўнае праўленне БГКТ.

Тэкст і фота М. Хмялеўскі



**Сцэна з п'есы «Дзесяць гектараў».**

# ЦАНА НАСТАЎНІЦКАГА ДЫПЛОМА

**(Працяг са стар. 1)**

Пані **Зіна Валкавыцкая настаўніца з Белавежы** ўжо закончыла кракаўскую ВСП. У яе асталіся толькі ўспаміны.

— Памяшкальныя ўмовы — страшэнныя. Уявіце, што на абавязковыя кансультацыі клічуць, а не даюць ніякіх начлегаў, а самому знайсці месца ў гасцініцы амаль немагчыма. Ведаю выпадак, што мая сяброўка, якая прыехала бараніць магістэрскую працу, вымушана была начаваць у кацельні (катлоўні). Вельмі часта я сама начавала на пошце... А дома, паколькі я сямейная, пачынала вучыцца тады, калі ўсе пойдуць спаць...

Дадайма ад сябе, што ВСП у Кракаве так выгаднае, што ў часе канікулаў, калі ёсць заняткі, не хоча арганізаваць сталовых завочнікам, выплачваючы ім толькі грошы.

Можна многа пісаць аб цане настаўніцкага дыплома, хаця б і тое, што за грамадскую працу даюць узнагароды, а тым, хто вучыцца часцей за ўсё памінаюць. А яны ж вучацца не дзеля кар'еры, не дзеля велізарных заработкаў, але для дабра сацыялістычнай, новай школы. І вельмі дзіўна, што гэтымі людзьмі не цікавіцца прафсаюзная арганізацыя ці школьная адміністрацыя. Справу рэзервацыі начлегаў, харчавання, узнагарод напэўна можна паправіць на карысць студэнтаў, але трэба гэтым пацікавіцца і хацець паменшыць цану настаўніцкага дыплома. Дык **апелюем да таварышоў з Акруговага праўлення ЗНП і Кураторыум: дапамажыце вашым настаўнікам-студэнтам.**

**Аляксей Карпюк**
фота аўтара

# Супольныя пастаўкі

Вядома, што мінеральных угнаенняў цяпер удосталь. Ужо не сяляне, а загадчыкі складаў турбуюцца, што з імі рабіць. Запасы штучных угнаенняў 15 лютага 1968 года сягалі на Беласточчыне 45 тысяч тон.

На ратунак прыходзяць сельскагаспадарчыя гурткі. Іх кіраўніцтва дагаварылася з ашчадна-пазыкавымі спулдзельнямі адносна крэдытнага продажу штучных угнаенняў. Селянін проста падпісвае на спіску, што згаджаецца прыняць угнаенні і больш яго нічога не турбуе. Заплаціць за іх пазней, калі вырасце збожжа і заплаціць не ГС-у, а для СОП. Сельскагаспадарчы гурток проста з вагона даставіць гаспадару патрэбнае ўгнаенне на панадворак.

У 1966 годзе супольнай пастаўкай штучных угнаенняў займалася ў нашым ваяводстве 715 гурткоў. Даставілі яны сялянам 21.285 тон. У мінулым годзе продаж гэтым чынам пашырыўся яшчэ больш, і зараз улады намагаюцца, каб асноўную масу штучных угнаенняў даставіць у вёску дарогай супольных пакупак — проста з вагонаў.

(вр)




## УТВАРЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

*1. Працоўныя Беларусі ў барацьбе за перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі.*

Пасля Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі памешчыкі, капіталісты, буржуазныя, нацыяналістычныя і згодніцкія партыі з усяе сілы намагаліся ўзмоцніць уладу ў краіне буржуазнага Часовага ўрада. Ён пераняў і працягваў унутраную і знешнюю палітыку скінутага царскага самадзяржаўя. Ахоўваў капіталістычную і памешчыцкую ўласнасць, прыгнятаў нярускія народы Расіі, працягваў удзел краіны ў імперыялістычнай вайне, гуртаваў рэакцыйныя сілы да расправы з рэвалюцыйным рухам.

РСДРП (бальшавікоў) на чале з У. І. Леніным актыўна мабілізавала працоўныя масы да барацьбы за пераход ад буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі да рэвалюцыі сацыялістычнай. Толькі ўстанаўленне ў краіне сацыялістычнага ладу магло запэўніць працоўным вызваленне ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, стварыць падставы да будовы светлай будучыні.

У Беларусі, як і ва ўсёй краіне, бальшавікі растлумачвалі грамадству прадажнасць і здрадніцтва згодніцкіх партый і буржуазных нацыяналістаў, антынародную сутнасць Часовага ўрада. Выяснялі неабходнасць спынення крывапралітнай сусветнай вайны, патрэбу ўстанаўлення васьмігадзіннага рабочага дня, увядзення кантролю рабочых над вытворчасцю і падзелам прадуктаў у грамадстве, бясплатнага надзялення сялян зямлёй. Усё гэта магчыма толькі ў выніку ліквідацыі двоеўладдзя і пераходзе ўсяе ўлады ў краіне да Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. Уздзеянне бальшавікоў на грамадства з кожным днём узрастала, бо толькі яны баранілі працоўных і выражалі іх запаветныя мары. Пад кіраўніцтвам бальшавіцкіх арганізацый рабочыя засноўвалі на прадпрыемствах свае камітэты, самі ўводзілі васьмігадзінны дзень працы. Сяляне займалі памешчыцкую зямлю. На фронце салдаты не выконвалі загадаў афіцэраў.

**Хочучы** загамаваць пашырэнне рэвалюцыйнага руху ў краіне, Часовы ўрад распачаў у чэрвені 1917 года наступленне на фронце. З-за непадрыхтаванасці арміі і няўдольнасці камандвання наступленне правалілася. Ва ўсёй Расійскай дзяржаве ўспыхнулі забастоўкі і дэманстрацыі працоўных і салдат, накіраваныя супроць вайне і Часоваму ўраду. Рэакцыйныя сілы, згуртаваныя вакол Часовага ўрада, разгарнулі наступленне супроць рабочых і бальшавікоў. У ліпені афіцэры і казакі па загаду Часовага ўрада расстралялі ў Петраградзе мірную дэманстрацыю рабочых і салдат. Разгрому падвергліся камітэты РСДРП, рабочых арганізацый і газет, пачаліся масавыя арышты рабочых і сялянскіх дзеячоў. У краіне была ўстаноўлена контррэвалюцыйная дыктатура, якую ўзначаліў царскі генерал Карнілаў. У саветах перамаглі прадстаўнікі згодніцкіх, буржуазных і памешчыцкіх партый. Саветы перасталі выражаць інтарэсы працоўных, яны ператварыліся ў прыдатак Часовага ўрада.

У часе націску рэакцыі бальшавікі яшчэ больш узмоцнілі сувязь з працоўнымі масамі, кіравалі барацьбой супроць карнілаўскай рэакцыі і рыхтавалі ўзброенае паўстанне. У Мінску, Віцебску, Оршы, Гомелі былі арганізаваны атрады Чырвонай гвардыі. Яны разам з рабочымі Магілёва абясшкодзілі галоўны штаб Карнілава, які знаходзіўся ў гэтым



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# У нацыянальнай камісіі ВК ПАРП

(Працяг са стар. 1)

на якіх падтрымана становішча кіраўніцтва ЦК ПАРП. Сведчыць гэта аб глыбокай прывязанасці да сацыялізма, даверы да партыі і поўнай падтрымцы яе палітыкі.

Пасля абмеркавання Камісія зацвердзіла напрамкі дзейнасці Ведамства ўнутраных спраў у галіне нацыянальных спраў на 1968—69 гады.

У пасяджэнні, апрача членаў Камісіі, прынялі ўдзел кіраўнікі аддзелаў унутраных спраў прэзідыумаў павятовых рад нарадовых, на тэрыторыях якіх дзейнічаюць нацыянальныя таварыствы.

(рл)

## Заўсёды наперад

Ты слухай, паслухай,
Таварыш і брат:
Заўсёды наперад!
Ніколі назад!

Глядзі — во імчыцца —
Жыццю напралом —
Па полі, па пушчы
Віхор — буралом.

Як віхры, машыны
Бягуць па зямлі,
Па моры па сінім
Плывуць караблі.

У моры, ў азёры,
Палошчучы муць,
Крыніцы і рэкі
Цякуць і цякуць.

Арлы-самалёты
Свідруюць прастор,




Не знаючы ў лёце
Ні меж, ні разор.

Заўсёды наперад!
Ніколі назад!

. . . . . . . . . .

Во гэтак, няйначай,
Таварыш і брат!

**Янка Купала**

1. Пры дапамозе якіх слоў аўтар перадае нястрымны рух жыцця наперад?

2. Выпішыце з верша метафары. Уласнымі словамі растлумачце іх сэнс.

**Біяграфічная даведка**

Янка Купала (1882—1942). — Сапраўднае прозвішча Іван Луцэвіч. Пачаў друкавацца ў 1905 годзе. Стваральнік беларускай паэзіі, аўтар шматлікіх вершаў, паэм і драматычных твораў у дакастрычніцкі час праўдзіва адлюстраваў цяжкае жыццё беднага беларускага сялянства, яго барацьбу супраць эксплуататараў. У паслякастрычніцкі перыяд Янка Купала ў сваіх творах адлюстраваў сацыялістычную рэчаіснасць, раскрыў высокія маральныя якасці савецкіх людзей. Творы яго прасякнуты палымяным пачуццём патрыятызма, многія з іх прысвечаны тэмам індустрыялізацыі краіны, калектывізацыі сельскай гаспадаркі, дружбе народаў. Яго важнейшыя творы гэта: драма «Раскіданае гняздо», камедыя «Паўлінка», паэмы «Курган», «Бандароўна». Займаўся перакладамі твораў славянскіх літаратур. Ён пераклаў на беларускую мову многія вершы А. Міцкевіча, М. Канапніцкай і іншых паэтаў.

У пошуках шчасця




Ёсць у Беластоку крама народнай вытворчасці: на аконнай выстаўцы саламяныя каробкі, саламяныя маты, саламяныя чалавечкі са смешнымі саламянымі барадамі. У іншым акне чалавечкі драўляныя, драўляныя лыжкі, апалонікі, драўляныя гаршочкі. У краме тое ж самае, і яшчэ значна больш падобных рэчаў. Штодзень праходжу міма гэтай выстаўкі. Кідаю зрокам на чалавечкаў драўляных і чалавечкаў саламяных. Чалавечкі глядзяць сумна. Часам здаецца, што яны плачуць ціхенька ў саламяныя свае бароды, на драўляныя пастаменты. Дзіўна ім тут у гэтым шумлівым свеце — проста дзіка. Іх месца там, пад саламянымі вясковымі стрэхамі, у поцьме нізенькіх хатак, у сумных прыдарожных капліčках. А праўду кажучы няма ім ужо месца на зямлі, бо няма нізенькіх закопчаных хатаў, амаль няма саламяных стрэхаў і пусцеюць прыдарожныя каплічкі. Чалавечкі сумна глядзяць на бурлівую гарадскую вуліцу і плачуць ціха.

Бо ці можа быць большы кантраст чымсці тут: гэтая задыханая ад спеху бурлівая вуліца, з безупынным шумам аўтамашын і гэтыя статычныя постаці з каменным спакоем і цішынёй на драўляных тварах, постаці, якія з'яўляюцца простым запярэчаннем усялякага дынамізму і руху.

Людзі з натоўпу не заўсёды аднак праходзяць абыякава да застыўшых у дрэве постацей. Часам адрываюцца ад спешлівага натоўпу, падыходзяць да выставачных вокан і застываюць насупраць застыўшых постацей гліняных гаршкоў, саламяных каробак. Часам уваходзяць у магазін, купляюць.

Гляньце аднак на гарадскі натоўп. Ён хворы дзіўнай хваробай — хваробай ананімнасці, сярэдняга дастатку, сярэдняга камфорту, сярэдняга гарадскога стылю жыцця. Усе ў гарадскім натоўпе ў чыстых кашулях, з элегантнымі партфелямі ў руках — у хаце маюць тэлевізары і бліскучую мэблю.

Цяжка жыць у свеце ананімнасці. Цяжка быць ананімам сярод ананімаў — чалавекам без імя і значэння, сярод людзей — такіх самых ананімаў. Свет ананімнасці — гэта свет няяснасці. Няясным мне мой сусед у аўтобусе, у кіно, у чарзе за апельсінамі, не ведаю, як з ім гаварыць, каго хваліць, каго ганіць, не ведаю ні яго светапогляду ні яго густаў, ні яго багацця, ні яго ўлады.

Часам нехта купіць самаход, або запусціць бараду, маладзік наложыць штанікі брудныя і неахайныя быццам селянін да гною. Шчаслівцы! Яны сваё асягнулі. Знайшлі спосаб, каб пазбыцца ананімнасці, каб стацца **ЧЫМСЬЦІ**, каб даць названне сваёй асаблівасці. А іншыя? Бягуць уздоўж гарадской вуліцы ў сваіх справах. Часам зрок падае на акно з застыўшымі драўлянымі постацямі. Захо зяць. Доўга ўглядаюцца, а потым купляюць. Потым з набожнасцю размяшчаюць народных святых у сваіх камфортных пакоях. Абіваюць сцены саламянымі матамі, вешаюць саламяныя кошыкі. Такім чынам знайшлі яны тое, чаго шукалі, сваю ўласную сігнатуру, наяўны знак свайго месца ў грамадстве. Такім чынам увайшлі яны ў ганаровую трамадскую групу, у групу **ЛЮДЗЕЙ З ДОБРЫМ ГУСТАМ.**

Ёсць у Беластоку і іншае месца, дзе прадаюцца прадметы прыгажосці. Гэта Сенны рынак. Майстэрства выходзіць тут само да народа. Жанчыны — прадаўшчыцы развешваюць на вуліцы разнаколерныя макаткі. На макатках як заўсёды: алені, лебедзі, уланы і старасвецкія дамы. Макаткі купляюць людзі з вёскі, людзі без густу, тыя, якія робяць саламянкі людзям з густам. Людзі з густам злуюцца на людзей без густу: як можна купляць такую агідную шміру! Людзі без густу здзіўляюцца людзям з густамі: як можна захапляцца такім вясковым барахлом, як саламянкі! Людзі з густам вярхом: у іх руках тэорыя, яны пішуць кніжкі, газеты, талкуюць па радыё. Тлумачаць: народнае мастацтва мае немінаючыя мастацкія вартасці, кірмашная шміра аніякіх вартасцей не мае. Забываюцца, што мастацкія вартасці не існуюць паза чалавекам, што знойдзены яны людзьмі і для людзей і змяняюцца так, як змяняюцца людзі.

А на вёсцы гэтыя ж самыя справы, што ў гарадскім натоўпе, гэтае ж самае імкненне, каб знайсці новыя азначэнні, новыя сімвалы — сігнатуры змяняўшайся сітуацыі сялян. Пакуль што, гэта разнаколерныя макаткі. Сімвалы будуць змяняцца, так як змяняцца будзе эканамічная і грамадская сітуацыя сялян. Але не вярнуцца ім да таго, да чаго хацелі б вярнуць сялян дзеячы культуры — да традыцыйнага народнага мастацтва. Бо традыцыйнае народнае мастацтва было мастацкім сімвалам вясковай традыцыі. А сучасны жыхар вёскі якраз наадварот — імкнецца, каб узброіць сваю хату і ўсё сваё жыццё, адзначыць яго сімваламі, якія ставяць яго магчыма як найдалей ад вясковай традыцыі — убогай, цёмнай і нецікавай.

**Рыгор Паўлюк**

# МЕХАНІЗУЕЦЦА ВЁСКА

Продаж сельскагаспадарчых машын і прылад утрымоўваецца на высокім ўзраўню. Першыя месяцы гэтага года сведчаць аб тым, што продаж машын у параўнанні да аналагічнага часу мінулага года намнога павысіўся. Хоціць сказаць, што вёска ў студзені г.г. выдала аж **482,5 мільёна зл. на пакупку машын,** калі ў аналагічным часе мінулага года выдаткавана толькі 297,7 мільёнаў зл. Захапляючы ўдзел у гэтых пакупках назіраецца ў сельгасгуртках, якія выдаткі свае павялічылі з 93,6 мільёна зл. у студзені мінулага года да **212,2** мільёна зл. у гэтым годзе. Так маецца справа ў краіне.

**А як гэта выглядае на беластоцкім панадворку?** А вось лічбы. Калі агульная сума, якую выдаткавала вёска на пакупку сельгасмашын **у 1960** годзе сягала **82,7 мільёна** зл., дык **у 1967** годзе гэты лік павялічыўся да **321,4 мільёна зл.** Каб лепш выказаць дынаміку пакупак, хочацца сказаць, што выдаткі вёскі ў 1967 годзе ў параўнанні да 1966 г. павялічыліся на 107,9 мільёнаў зл. Першыя два месяцы г.г. у параўнанні да 1967 таксама паказваюць на павелічэнне выдаткаў на 4 мільёны зл., але асноўная **заслуга тут сельскагаспадарчых гурткоў,** якія выдаткавалі (у I, II месяцы 1968 г.) больш 10 мільёнаў зл. на пакупку сельгасмашын, чым у аналагічным часе 1967 г.

(ак)

горадзе, і такім чынам зліквідавалі контррэвалюцыйны мяцеж. У далейшым рабочыя і бяднейшае сялянства Беларусі пад кіраўніцтвам бальшавікоў на чале з Паўночна-Заходнім абласным камітэтам РСДРП(б) рыхтаваліся да здзяйснення пралетарскай рэвалюцыі.

25 кастрычніка 1917 года рабочыя і салдаты Петраграда пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі на чале з У. І. Леніным скінулі буржуазны Часовы ўрад. На вестку аб гэтым бальшавікі Мінска адразу арганізавалі барацьбу за ўстанаўленне ў Беларусі Савецкай улады. Быў сфарміраван Першы рэвалюцыйны полк. Чырвонагвардзейцы і салдаты гэтага палка занялі чыгуначны вузел, дзяржаўныя і ваенныя ўстановы, пошту, тэлеграф, радыёстанцыі. У горадзе быў уведзены рэвалюцыйны парадак. Для кіраўніцтва сацыялістычнай рэвалюцыі ў Беларусі 26 кастрычніка быў паклікан Ваенна-рэвалюцыйны камітэт Заходняй вобласці і фронту. Ён стаў штабам барацьбы працоўных Беларусі і салдат Заходняга фронту за ўстанаўленне і ўмацаванне народнай улады. У склад Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта ўвайшлі прадстаўнікі бальшавіцкіх арганізацый, Саветаў і прафесіянальных саюзаў. Старшынёй яго быў паклікан А. Ф. Мяснікоў.

Пад кіраўніцтвам Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта чырвонагвардзейцы і рабочыя перамаглі контррэвалюцыйныя сілы, згуртаваныя ў «Камітэце выратавання радзімы і рэвалюцыі», які складаўся з буржуазіі, памешчыкаў, афіцэраў, верхаводаў здрадніцкіх і нацыяналістычных партый. Праз некалькі тыдняў чырвонагвардзейцы і рабочыя Беларусі сумесна з балтыйскімі маракамі і піцерскімі рабочымі разграмілі Стаўку галоўнага камандуючага, якая знаходзілася ў Магілёве. У Стаўцы гуртаваліся былыя міністры, генералы, ваенныя місіі капіталістычных краін. Яны рыхтавалі змову супраць Савецкай улады.

У выніку ахвярнай барацьбы працоўных пад канец лістапада ў той частцы Беларусі, якая не была занята нямецкімі войскамі, поўнасцю перамагла Савецкая ўлада. Пачалося будаўніцтва новага жыцця. Быў уведзены васьмігадзінны рабочы дзень, устаноўлен рабочы кантроль над вытворчасцю і падзелам прадуктаў, вялася падрыхтоўка да нацыяналізацыі буйнейшых прамысловых прадпрыемстваў. Паводле ленінскага дэкрэту аб зямлі памешчыцкія маёнткі былі канфіскаваны. Беларускія сяляне бясплатна атрымалі каля 4,6 мільёнаў гектараў зямлі, вялікую колькасць хатняга дабрабыту, сельскагаспадарчых машын і будынкаў.

Была ўведзена бясплатная медыцынская дапамога, адкрываліся школы і культурна-асветныя ўстановы.

Умацаваліся і развівалі сваю дзейнасць вышэйшыя органы народнай улады — Абласны выканаўчы камітэт Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў і Савет народных камісараў Паўночна-Заходняй вобласці і фронту.

*ПЫТАННІ І ЗАДАННЕ*

*1. Якую палітыку праводзіў Часовы ўрад?*

*2. Што выяснялі бальшавікі працоўным масам?*

*3. Якую ролю адыгралі бальшавікі Беларусі ў разгроме карнілаўшчыны?*

*4. Раскажыце, як праходзіла барацьба за ўстанаўленне ў Беларусі Савецкай улады.*

*5. Якія змены адбыліся ў жыцці працоўных Беларусі пасля ўстанаўлення Савецкай улады?*

# ПРАВІННАСЦІ

З года ў год павялічваецца ў **карна-адміністрацыйнай калегіі Сямяціцкага павета** колькасць спраў. І так, калі разыходзіцца аб хуліганскія злачынствы, лічба спраў выглядала наступна: **у 1966 г. — 215, а ў 1967 — 385**. У галіне парушэння правіл дарожнага руху колькасць спраў выглядае наступна: **у 1965 г. — 239, у 1966 г. — 310, а ў 1967 г. — 385.**

Лічбы паказваюць на тое, што неабходна тут пабольшыць прафілактычную дзейнасць і прымяняць іншыя формы супрацьдзеяння правіннасцям, а перш за ўсё павялічыць рэпрэсіі ў адносінах да хуліганскіх і дарожных правіннасцей.

(ак)



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ТРЫБУНА чытачоў

## РАЙСКІ СЕЛЬГАСГУРТОК

Сельскагаспадарчы гурток у Райску аб'ядноўвае 46 гаспадароў. Гурток мае тры трактарныя камплекты і 2 малацільныя агрэгаты. На пачатку мінулага года быў выбраны новы старшыня, які адразу ўзяўся за ўсе справы. Дбае ён добра аб належнае выкарыстанне ўсіх сельскагаспадарчых машын, а перш за ўсё трактараў. На гадавым сходзе членаў ніводнага найменшага закіду. У мінулым годзе трактары гуртка працавалі больш 5 тысяч гадзін. Таксама ў мінулым годзе ў Райску пачалася будова падручнай кузні і гаражоў для сельскагаспадарчых машын гуртка. Гурток за 1967 год выпрацаваў 38 тыс. зл. чыстага даходу.

**Аляксандр Трафімюк**
Райск

## ПАПАЎНЯЕЦЦА МАШЫНА-ТРАКТАРНЫ ПАРК

Зараз на Гайнаўшчыне сельскагаспадарчыя гурткі маюць больш як 200 трактараў. Ад новага года купілі яны 23 трактары, 18 прычэпаў, 16 двускібовых плугоў, 108 сеўнікаў і многа іншых машын. Механізацыя здабыла ўжо вялікую папулярнасць на нашых вёсках.

(мх)

## ПЯКАРНІ

Палепшылася на Гайнаўшчыне забеспячэнне хлебам насельніцтва. У мінулым годзе зроблена з былой малачарні пякарню ў Нарве. Хлеб з Нарвы прывозяць нават у Гайнаўку. І хлеб з яе высока цэніцца. У 1968 годзе адкрыта пякарню ў Белавежы. Дае яна ў дзень 3,5 тон хлеба, булак, рагаляў, халаў і здобаў. Так што асартымент хлеба-булачных прадуктаў павялічыўся. Палепшылася таксама іх якасць. Раней тут у старой пякарні можна было толькі спячы ў суткі 1 тону хлеба. У будучыні пабудуюцца пякарні ва ўсіх ГС.

Ц. Я.
Гайнаўка

## ЯК ВЫКОНВАЛІСЯ ПЛАНЫ

У грамадзе Мілейчыцы ў 1967 годзе было закантрактаваных 2843 штукі свіней на план 2246, а быдла 1045 штук на план 999 штук.

Кантрактацыя раслін таксама была перавыканана. Жыта было закантрактавана 208,5 га, аўса — 24,5 га, 75 тон, і гароху 30,5 тон. На гэты год план кантрактацыі раслін узрос на 57%.

Шмат было ў мінулым годзе продана ГС-ам мінеральных угнаенняў. І так, азотных угнаенняў продана 238 тон, фосфарных 410 тон, калійных — 480 тон і палявой вапны — 420 тон. У гэтым годзе запланавана ўзрост мінеральных угнаенняў на 26%.

Ідучы на палёгку для селяніна ГС арганізаваў на вёсках тры пункты продажу мінеральных угнаенняў. Знаходзяцца яны ў Грабарцы, Тарноўшчыне, і Гарнове.

Міхась Вішанко
Мілейчыцы

## СОЛТЫС ДБАЕ АБ ЧЫСЦІНЮ ВЁСКІ

Як толькі пачаў таяць снег, у кожнага на панадворку паявілася многа саломы, ражноў і інш. Солтыс вёскі Тапаляны, грам. Вінцук Руткоўскі ачысціў свой панадворак, а таксама вуліцу супроць сваёй хаты. Закончыўшы свае парадкі пайшоў да іншых сялян і сказаў, што яны мусяць зараз зрабіць парадак. Да некаторых хадзіў і пачынаў сам гэтую работу, але хутка гаспадары пераймалі і чысцілі самі. Прыемна вокам глянуць, казаў солтыс, калі чысціня і парадак у вёсцы. Такі прыклад солтыса варты як найшырэйшага распаўсюджання.

М. К.
Тапаляны

## Сардэчныя тайны

**Дарагое Сэрцайка!**

Часта чытаю твае парады. Думаю, што і мне напішаш. А вось паслухай, што здарылася са мною. Можа гэта справа не такая сур'ёзная, але крыху дзіўная.

У месяцы красавіку 1967 года пазнаёмілася я на забаве з хлопцам з суседняй вёскі. Цэлы вечар ён танцаваў са мной, адвёў мяне дадому, і так пачалося. Пачаў пісаць да мяне. Мы часта сустракаліся над рэчкай, калі было халадней — у горадзе. Набліжаўся навагодні вечар. Хлопец запрасіў мяне на забаву. Вечар быў вельмі прыемны. Ён вярнуўся са мной дамоў (да мяне) і пераначаваў, а на другі дзень пайшлі мы яшчэ на «паправіны», як кажуць. Усё было добра. Ён ад'ехаў дамоў, але ад таго часу Янэк не напісаў да мяне ніводнага пісьма. Штопраўда, ён не гаварыў мне, што мяне кахае, аднак не магу зразумець, як ён мог так змяніцца. Аднойчы прыехаў у нашу вёску на вечарыну. Не танцаваў са мною, нават не прывітаўся. Я хацела б, каб мы аднак засталіся сябрамі, звычайнымі сябрамі. Мне проста прыкра. Мо і ён прачытае гэтае пісьмо і зразумее мяне.

Марылька з Бельшчыны

**Дарагая Марылька!**

Аб гэтых справах вельмі многа пішацца, напэўна і ты не раз аб тым чытала. Хаця за свае паводзіны аднолькава адказныя і дзяўчына і хлапец, то аднак, перш за ўсё, павінна заўсёды памятаць аб гэтым дзяўчына. Бо ў большасці выпадкаў яна стаецца «ахвярай» гэтых супольных паступкаў. Разумею цябе, ведаю, як табе прыкра, аднак гэта будзе табе навукай на будучыню. Бываюць і такія хлопцы, як Янэк. Ён вельмі брыдка паступае, вельмі некультурна. Бо калі ўжо і не стаюцца тады людзі сябрамі, то заўсёды абавязвае пашана. Іменна яна стаецца паказчыкам культурнасці данай асобы.

Сэрцайка

## КАЎПАКІ

Невялікая вёска Каўпакі, што ляжыць у паўночна-ўсходняй частцы Беластоцкага павета, можа пахваліцца сваімі дасягненнямі. Тут варта падкрэсліць перш за ўсё належную працу сельскагаспадарчага гуртка, які, маючы два трактары, абслугоўваў вёскі Каўпакі, Патоку, Грозну і часткова вёску Агароднікі ў Гайнаўскім павеце. Вёска Каўпакі славіцца таксама з прыкладнай працы камісовага пункту продажу мінеральных угнаенняў.

У гэтым пункце належны парадак і хуткае абслугоўванне людзей. Прыемна паглядзець, як Іван Жак клапоціцца аб тым, каб як найхутчэй селяніна адправіць з мінеральнымі ўгнаеннямі дахаты.

Ужо нават многа гаспадароў з Гайнаўскага павета не хочуць ехаць па ўгнаенні ў ГС у Нарву, дзе трэба прастаяць цэлы дзень, каб іх дастаць.

У гэтым пункце ўсе ўгнаенні паважаны па 50 кг у папяровых мяшках. Селянін не патрабуе пэцкаць сваіх мяшкоў, а плаціць за папяровы мяшок толькі 2 зл. 20 гр.

Варта, каб усе сельскагаспадарчыя гурткі ўзялі прыклад з вёскі Каўпакі ў Беластоцкім павеце, а праўленні ГС — з Заблудаўскага ГС-у і каб паадкрывалі ў кожнай вёсцы камісовыя пункты продажу мінеральных угнаенняў, а тады не трэба было б чакаць цэлымі днямі ля складу ГС-у.

**Мікалай Лук'янюк**
Белкі

## ІВАН ГЛІВА

Іван Гліва з'яўляецца членам праўлення сельскагаспадарчага гуртка ў Храбалах. Чалавек гэты вельмі адданы гуртку, апякуецца машынамі і вельмі часта заступае трактарыстаў і выконвае паслугі для гуртка і сялян не аб'яднаных у гуртку. Калі што сапсуецца ў машыне, Іван Гліва патрапіць наладзіць. Дробныя рамонты хутка выконвае, і машына далей спраўная да працы.

А. Т.
Храбалы

## КУРС АКТЫВІСТАЎ ЗМВ

Курс актывістаў ЗМВ Гайнаўскага павета адбываўся на працягу 2 дзён у Белавежы. Сабралася каля 100 асоб. На курсе былі прачытаны даклады на тэму міжнароднай сітуацыі, аб заданнях для членаў ЗМВ у сувязі з IX Пленумам ЦК ПАРП, адбылася сустрэча з афіцэрамі Войска Польскага. Між іншым прачытаны быў даклад на тэму «Патрыятычнае і абароннае выхаванне моладзі».

Пасля кожнага даклада была ажыўленая дыскусія. Станіслаў Казберук гаварыў аб «Спорце і турыстыцы ў вясковым асяроддзі». На курсе адбыліся конкурсы на тэму антыалкагалізму з узнагародамі. Вечарам моладзь гуляла пад гукі аркестра. На другі дзень было асветна-палітычнае шкаленне.

Тэкст і фота:
**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## ГАРАЖЫ

Яшчэ часта можна ўбачыць шмат сельскагаспадарчых машын, якія зімуюць пад голым небам. У сельгасгуртку ў Хілімонах (Дуброўскі павет) ужо не будуць яны стаяць на двары. Будуюцца там выгодныя гаражы.

(мх)

## ТЭЛЕВІЗАРЫ

На пачатку мінулага года Інспектарат асветы і культуры ў Гайнаўцы купіў два тэлевізары ў школы: у Ляўкове Старым і Ляшуках. У сакавіку тэлевізар атрымала і пачатковая школа ў вёсцы Ахрымы. Варта дадаць, што тэлебачанне на вёсцы стае ўсё больш папулярным, і некаторыя жыхары лічаць за гонар мець уласны тэлевізар. Многія аднак надалей карыстаюцца тэлевізарамі ў клубах і школах.

Жыхары Ахрымаў даўно марылі мець у вёсцы хоць адзін тэлевізар. З дэкларацыяй грашовага фонду на такога роду мерапрыемства выступалі жыхары і сельгасгурток.

Інспектарат асветы і культуры ў Гайнаўцы палічыў даць сюды тэлевізар у першую чаргу.

Людзі тут не мелі раней ніякіх культурных мерапрыемстваў, апрача школьных акадэмій, якія рыхтавалі вучні ад першага да чацвёртага класаў.

Я. Ц.
Ахрымы

---

вось і слабы ветрык. Значыць, паветра ў гроце рухаецца? Дзе ж дзірка, праз якую вентылюецца грот? Яна, трэба меркаваць, там, куды цягне вецярок. Дарэчы, удары таксама даносяцца з таго боку.

Карцаў паўзе, арыентуючыся па ледзь прыкметнай плыні паветра. Неўзабаве пляцоўка змянілася тунелем. Потым тунель пераўтварыўся ў вузкі лаз, дно якога было спярэшчана вострымі выступамі. Ён абдзіраў калені, але поўз. Паварот, яшчэ паварот, затым круты выгін тунеля, ледзь не ў адваротны бок, — і ён з енкам прыціскае далоні да вачэй.

Некалькі мінут ён ляжаў ніцма, баючыся паверыць, што зноў убачыў святло. Так, перад ім была дзірка. Адтуль струменілася святло і даносіліся ўдары.

Супакоіўшыся, ён падцягнуўся на руках, асцярожна зазірнуў у пралом. Ён думаў, што адшукаў выхад з падзямелля. Але ён не ўбачыў ні неба, ні сонца. Тунель вывеў яго ў новы грот.

Грот вельмі вялікі. Знізу вада. Яна асветлена пражэктарамі. Яны прымацаваны да сцен і накіраваны ўніз. Вяршыня падзямелля патанае ў цемры.

Вочы Карцава свідруюць лагуну. Пад вадой нешта рухаецца. Нейкі цень падымаецца з глыбіні. З-пад вады з'яўляюцца дзве чалавечыя галавы, абедзве ў чорных шлёмах. Не спыняючы руху, людзі працягваюць усплываць. Вось іх відаць па плечы, па грудзі. Яны плывуць упрытык адзін за другім, не змяняючы дыстанцыі, быццам сядзяць на гігантычнай рыбе.

Карцаў не адразу прыкмячае, што з бяздоння з'явілася яшчэ тры «коннікі». Плыўцы ля супрацьлеглага края падземнага возера, дзе спадзістыя скалы стварылі нешта падобнае да пляцоўкі. Тут запальваецца святло. Цяпер відаць апушчаны ў лагуну трап, нішы ў сцяне, стэлажы, нейкія скрыні. Ля стэлажаў працуе барадач, ударамі молата заганяючы ў скалу жалезны кастыль. Гэтыя гукі і вялі Карцава па скальным лабірынце.

Вось з пячоры выязджае калёсны кран. Ён набліжаецца да вады і выцягвае з лагуны тоўсты цыліндар. Нос цыліндра закруглены, у сярэдняй частцы — сядзенні, а на карме рулі і кальцавая агарожа вінтоў. Гэта жывая тарпеда!

Але што гэта? У паветры дзве тарпеды, павешаныя адна над другою. У верхняй прарэзаны кокпіт, і ў ім сядзіць чалавек, закрыты празрыстым абцякацелем.

Праца працягваецца. Неўзабаве кран падымае яшчэ два стальныя цыліндры.

Тарпеды ўкладзены на стэлажах. Плыўцы вылезлі, вызваліліся ад шлёмаў і рэспіратараў.

Пражэктары гаснуць.

Цемра.

(Працяг будзе)

# КІНО

**Праграма на 16—21.IV.1962 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
,,Dr Fabryzus działa'' (NRD), 16—17, ,,Po wielkiej burzy'' (szwajcarski), 18—19. ,,Chewzburska ballada'' (franc.) 20—21.

**Дубіны**
,,Kamo znany osobiście'' (radz.), ,,Kamo niebezpieczna misja'' (radz.), 13—14.

**Нараўка**
,,Fifi piórko'' (franc.), ,,Na pokładzie stanął kapitan'' (radz.), 17—21.

**Нарва**
,,Teresa Desgueraux'' (franc.), ,,Porucznik jazdy'' (radz.), 17—21.

**Чыжы**
,,Gdzie jesteś Maksymie'' (radz.), ,,Królowa stacja benzynowej'' (radziecki), 17—21.

**Дубічы Царкоўныя**
,,Bicz Boży'' (palski), ,,Lebiediew contra Lebiediew'' (radz.), 17—21.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
,,Kochankowie z Marony'' (polski), ,,Znowu Max Linder'' (franc.), 17—21.

**Орля**
,,Dzieci Don Kichota'' (radz.), ,,Dzielnica kruków'' (szwedzki), 17—21.

**Райск**
,,Złoto'' (polski), ,,Dzwony dla bosych'' (czeski), 17—21.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
,,Rok Franka W.'' (polski), ,,Chewzburska ballada'' (franc.), 16—19.

**Міхалова**
,,Ludwiku do rondla'' (jugosł.), 16—17. ,,Noc bez końca'' (bułg.), 18—19. ,,Dywersanci'' (jugosł.), 20—21.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
,,Na pomoc'' (angl.), 16—17. ,,Kaukaska branka'' (radz.), 18—19. ,,Marysa i Napoleon'' (polski), 20—21.

**Шудзялава**
,,Królowa stacji benzynowej'' (radziecki), ,,Listek figowy'' (węgierski) 17—21.

**Янаў**
,,Sami swoi'' (polski), ,, Gra bez reguł'' (czeski), 17—21.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
,,Na tropach szpiega'' (radz.), ,,Po kruchym lodzie'' (radz.), 17—21.

**Новы Двор**
,,Flip, Flap i inni'' (USA), ,,Gorące lato'' (jugosł.), 20—21.

**Ліпск**
,,Aleksander Newski'' (radz.), ,,Dialog'' (węgierski), 20—21.

### БЕЛАСТОК

БГКТ: «Манета» — 14.IV.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK ,,Ruch'' Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. G-3. NAKŁAD 7276



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

